Цана асобнага нумару 15 гр. | У гэтым нумары 6 старонак. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 92 (143). Вільня, Серада 14 Сьнежаня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Вострабрамская 8—1.
(Wilno, ul. Ostrobramska 8—1):
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Першае парлямантскае прадстаўніцтва.

28-га лістападу закончыў сваё істнаваньне польскі парлямант (Сойм і Сэнат), у якім, воляю цяжкой долі, прымушаны былі прымаць удзел і прадстаўнікі Беларускага Народу. 5 год таму назад Беларускі Народ праз сваё галасаваньне выдаў мандаты сваім выбранцам на абарону яго інтарэсаў і правоў. Першае беларускае прадстаўніцтва — Беларускі Пасольскі Клюб — складалася ў пачатку з 14 асоб: 11 паслоў і 3 сэнатараў, якія прайшлі па наступных вокругах: Сьвянцянскі—2 паслы, Лідзкі — 2 п., Наваградзкі — 2., Беластоцкі—1 п., Горадзенскі—1 п., Пінскі — 1 п., Бельскі (Востраўскі)—1 п. і па дзяржаўнаму сьпіску 1 п; Сэнатары: 2 прайшлі па Віленскаму і Наваградзкаму ваяводзтву і 1 па дзяржаўнаму сьпіску.

Ужо сам факт выбару першага беларускага парлямантскага прадстаўніцтва па сьпіску блёку нацыянальных меншасьцяў прарочыў выбранцам беларускага адраджэнскага руху цяжкое змаганьне ў Сойме за правы і інтарэсы працоўных гушчаў Беларускага Народу. Першыя інтэрпэляцыі паслоў Беларускага Пасольскага Клюбу датычылі якраз надужыцьцяў пры выбарах і арыштаў асоб, якія дзейна прычыняліся да агітацыі за ўсім вядомую 16-тку. Гэтыя арышты былі першымі польскімі ластаўкамі, якія прыляцелі ў наш край у нагароду за тое, што Беларусы асьмеліліся аддаць свае галасы за сваіх-жа Беларусаў, а не чужынцаў, як „Вызваленьне", „ППС" і інш. Але ня гледзячы на першыя ластаўкі, кожны выбаршчык, які аддаў свой голас за сьпісак блёку нацыянальных меншасьцяў не памыліўся і не шкадуе свайго кроку. Праца Беларускага Пасольскага Клюбу ёсьць нагародай для выбаршчыкаў за ўсе зьдзекі і крыўды, якія прыходзілася і прыходзіцца дазнаваць беларускім працоўным масам: сялянам і работнікам пад Польшчаю.

Усю працу, а скарэй змаганьне беларускіх паслоў у Сойме можна падзяліць на наступныя часьці: змаганьне з праектамі законаў і бюджэтамі, падаванымі ўрадам, карыстаньне з законадаўчай ініцыятывы, змаганьне са зьдзекамі і надужыцьцямі адміністрацыі і паліцыі і адносіны да ўраду. Калі ходзе аб гэты апошні пункт, то Беларускі Пасольскі Клюб першае сваё выступленьне зрабіў, асноўваючыся на варунковым даверыі да тагочаснага ўраду і нат прыймаў удзел пры выбарах прэзыдэнта, аддаючы свой голас за кандыдата г. зв. лявіцы. Але ўжо ў працягу першых 6-ёх месяцаў Бел. Пас. Клюб радыкальна зьмяніў свае адносіны да ўраду і стаў да яго ў вострай апазыцыі, галасуючы проці ўсіх урадавых праектаў, законаў і выказваючы недавер польскім урадам. Маёвы пераварот не зьмяніў тактыкі Клюбу, Клюб астаўся ў апазыцыі да ўсіх г. зв. „санацыйных" урадаў і пры выбарах трэцяга прэзыдэнта аддаў белыя картачкі. Гэткая тактыка Беларускага Пасольскага Клюбу была падыктавана адносінамі большасьці польскага Сойму (і правай і левай) і польскага ўраду да беларускага пытаньня наагул і настроямі беларускіх працоўных гушчаў, якія з кожным днём што-раз больш грэзьлі ў галіту і дазнавалі зьдзекаў і крыўды.

Ужо апазыцыйныя адносіны Беларускага Пасольскага Клюбу да ўраду сьведчаць аб тым, як цяжка было беларускаму прадстаўніцтву змагацца з праектамі законаў і бюджэтамі прапанаваных урадам.

Паскольні польскі ўрад і польскія партыі імкнуліся і імкнуцца спалянізаваць наш край, настолькі ўсе праекты польскіх законаў былі скіраваны проціў адраджэньня Беларускага Народу. Замест закону аб зямельнай рэформе, надзяляючым зямлю для мясцовага жыхарства, польскі ўрад падаў закон аб асадніцтве і калёнізацыі. Гэты закон у Сойме падтрымалі ўсе польскія партыі асабліва г. зв. левыя з „Вызваленьня", ППС і Хлопскіх партыяў. Толькі беларускія паслы і паслы з іншых клюбаў нацыянальных меншасьцяў выступалі востра проціў гэтага закону, імкнучыся недапусьціць да палянізацыі нашых зямель асаднікамі. Тое самае было з законам аб грашовых дапамогах асаднікам. Мала таго, што з пад носу беларускаму селяніну забралі зямлю і аддалі яе польскаму асадніку, польскі ўрад падаў, а тыя самыя польскія, г. зв., левыя партыі прынялі праект закону аб грашовых дапамогах асаднікам, г. зн., за падаткі з нашага беднага селяніна прадавалі апошнюю падушку ці вопратку, а на'т і кароўку, а грошы аддавалі асаднікам на забудаваньне. Беларускія паслы мусілі змагацца і з гэтым законам.

Калі ходзе аб асьвету ў роднай мове, дык тут бачым такое самае змаганьне. Польскі ўрад разам з г. зв., польскаю лявіцаю апрацаваў, г. зв., языковыя ўставы. Бачучы ў гэтых уставах толькі дэманстрацыю польскага ўраду перад Эўропай аб, быццам, спагадных адносінах да нацыянальных меншасьцяў, і адначасна законную падставу да палянізацыі беларускіх дзетак, Беларускі Пасольскі Клюб самым рашучым спосабам пратэставаў проці гэтых уставаў. Гэтыя пратэсты сыпаліся з соймавай трыбуны з вуснаў прамоўцаў і з лавак нацыянальных меншасьцяў, дзе чутны былі крыкі, сьвісты, стуканьне ў дошкі ад крэслаў, сьпевы і іншыя.

Хоць посьле такіх соймавых авантур маршалак Сойму выключаў беларускіх паслоў з паседжаньняў і канфіскаваў пасольскія дыеты, аднак гэта не пашкодзіла беларускім паслом вытрываць да канца з гонарам на фронце змаганьня з праектамі законаў шкодных для Беларускага Народу.

Такое самае змаганьне было і пры разважаньні бюджэтаў. Калі Беларускі Народ аплачвае падаткі, дык мае права з дзяржаўнага бюджэту атрымаць адпаведныя прапарцыянальныя сумы на свае патрэбы. Аднак мусім тут падкрэсьліць, што праз усе 5 гадоў, нягледзячы на дамаганьні Беларускага Пасольскага Клюбу, польскім Соймам не была прынята ніводная пазыцыя на карысьць Беларускага Народу, бюджэты былі выключна для Палякоў і на польскія палянізацыйныя і іншыя мэты.

Так праходзіла змаганьне беларускіх паслоў з праектамі законаў і бюджэтаў падаваных урадам у Сойм. Калі ходзе аб заканадаўчую ініцыятыву, дык у гэтай галіне Беларускі Пасольскі Клюб выявіў нязвычайна шмат энэргіі, дбаласьці і змаганьня. Беларускі Пасольскі Клюб падаў 42 прапазыцыі, дамагаючыся радыкальных зьменаў істнуючых адносінаў і законаў, дамагаючыся скасаваньня асадніцтва і надзелу мясцовага сялянства зямлёю, зьмяншэньня падаткаў, выдачы дапамог на адбудову зьнішчаных вайной гаспадарак, крэдытаў для сялянства, школы ў роднай мове, дэмакратычных самаўрадаў, спыненьня арыштаў і катаваньня арыштаваных, амнэстыі для палітычных вязьняў і інш. У змаганьні са зьдзекамі і надужыцьцямі адміністрацыі і паліцыі Беларускі Пасольскі Клюб падаў 335 інтэрпэляцыяў, з якіх больш як на 100 не атрымана ніякага адказу. Інтэрпэляцыі датычылі ўсялякага роду нацыянальнага ўціску Беларусаў на палітычнай, гаспадарчай і культурна-прасьветнай ніве.

З вышэй зьмешчанага бачым, як цярністы быў шлях працы першага беларускага прадстаўніцтва ў Сойме, якое ў часе трываньня Сойму, дзякуючы адносінам польскае ўлады, зьменшылася да 8 асоб. Праўда, яшчэ больш цярністы той шлях, якім прымушаны ісьці беларускія працоўныя масы пад Польшчаю! Аднак трэба ведаць, што толькі такім шляхам, шляхам змаганьня можам дайсьці да палепшаньня сваей долі. Дык у мэтах гэтага змаганьня пры новых выбарах у Сойм, якія адбудуцца 4-га сакавіка 1928 году Беларускі Народ, як працоўныя гушчы вёскі і места, павінен выявіць поўную сваю сьпеласьць і выбраць у Сойм і Сэнат сваіх найздальнейшых барацьбітоў.

*Сяляне! Арганізуйцеся, у арганізацыі—сіла!*

# ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

XIV.

Кожны раз, калі нам у мэтах інфармацыі, чаго вымагае газэтная справа, прыходзіцца пісаць аб жыцьці Савецкае Дзяржавы, дзе пануюць бальшавікі, дык мусім задумацца... Мусім задумацца дзеля таго, што хочучы быць безстароннымі, трымаючы да Саветаў поўны нэўтралітэт, пры ўсім сваім аб'ектывізме можна бачыць у нашых аглядах быццам варожасьць, бо зусім мала спатыкаецца такога, што-б гаварыла аб тым, каб поўнасьцю апраўдаць бальшавікоў у тым, што яны зьяўляюцца — работніцка-сялянскаю ўладаю.

Каб даказаць нашую безстароннасьць, на гэты раз падаем для нашых чытачоў агляд па дадзеным № 1 „Права Працы", газэты, якую прынамсі нельга западозрыць у варожасьці да Саветаў і іх улады.

Справа ў тым, што Сталін, генэральны сэкрэтар (а не старшыня савецкага ўраду, як падала газ. „Права Працы") камуністычнае партыі, у часе сьвяткаваньня 10 угодкаў існаваньня савецкай улады, даў цікавую інфармацыю прадстаўніком чужаземных дэлегацыяў па трынаццаці запытаньнях.

„На пытаньне: чаму СССР. не належыць да Лігі Нацыяў — Сталін адказаў: — Ліга Нацыяў — толькі шырма за якою спрытна хаваецца самаволя імпэрыялістычнай буржуазіі (вялікіх дзяржаваў); дык ясна, што дзяржава працоўных ня можа належаць да гэтай установы".

На запытаньне, чаму у СССР. няма вольнасьці прэсы, Сталін адказаў,—што вольнасьць для ўрадавае прэсы ёсьць, а іншая прэса (газэты і іншае друкаванае слова) пралетарыяту не патрэбна.

Магчымасьці аб'яднаньня II сацыялістычнага і III бальшавіцкага інтэрнацыяналу, (II інтэрнацыянал, саюз усіх сацыялістаў, а III—саюз усіх бальшавікоў), Сталін станоўча запярэчыў з прычыны таго, што сацыялісты падтрымоўваюць капіталістычны лад.

Адносна сусьветнага камуністычнага перавароту — на жаль — Сталін нічога рашучага не сказаў. Адзначыў і толькі, што паасобныя паўстаньні будуць і параўняў гэтыя паўстаньні — ці-ж ня цікава — з марскім прылівам і адлівам і толькі. Знача-то прыбудзе „рэвалюцыйнае" вады да берагоў, то ізноў убудзе.

Сьцьвярдзіўшы, з цыфрамі ў руках, незначны лік апазыцыянераў (праціўнікаў проці яго палітыкі) у камуністычнай партыі, Сталін з забойчай іроніяй адкінуў усё тое, што прыпісвае апазыцыю сталінаўскаму цэнтру. З яго ірачічна-забойчага запярэчаньня мы дазналіся, што праціўнікі сталінаўскай палітыкі (прыяцелі Троцкага, якога ўжо як ведама выгналі з камуністычнае партыі), вінавацяць сталінцаў у тым, што быццам яны прадалі ўсіх работнікаў контр-рэвалюцыі. (У гэтым самым сталінцы вінавацяць трацкістаў — дзе праўда? толькі ім ведама!).

На пытаньне француcкага дэлегата ў справе барацьбы за нафтавы рынак, Сталін адказаў, што ніякае барацьбы няма, што Саветы толькі бароняць свой нафтавы рынак, а дзеля гэтага проста прадаюць нафту па ніжэйшай цане, ад цэнаў капіталістычных прамыслоўцаў.

„Гэтым самым, мы ня толькі баронім нафтавы рынак ад капіталістых, але-ж аблягчаем жыцьцё шырокім масам незаможных набыўцаў нафты", — кажа Сталін.

У справе ажыцяўленьня сацыялізацыі сялянскіх гаспадаркаў, (што зьяўляецца цікавым і для нашага сялянства — паводле „Права Працы"), Сталін адзначыў, што яны маюць намер і плян паступова калектывізаваць (аб'яднаць у камуны) усё сялянства спосабамі гаспадарчымі, фінансавымі і культурнымі". Шляхам арганізаваньня сялянскіх гаспадарак у коопэратывы, сялянскую беднату ў таварыствы і г. д.

На запытаньне, чаму дагэтуль Саветы не скасавалі грошай, як гэта прадбачыць сацыялістычны лад, Сталін адказаў, што да скасаваньня грошай няўхільна дойдзе, але-ж да гэтага яшчэ далёка.

Адказваючы на запытаньне ў справе розьніцы цэнаў на тавары фабрычнай прамысловасьці і цэнаў на прадукты сельскай гаспадаркі, — не на карысьць апошняй, — Сталін прызнаў, што прамысловыя тавары прадаюцца прадуктуючай хлеб вёсцы — значна даражэй, чым гэта можна было рабіць у іншых варунках (даражэй, як да вайны, дый як заграніцай).

На запытаньне, чаму савецкая ўлада не скасуе гарэлачнай манаполіі, цераз пасярэдніцтва якое, як і да вайны атручваецца народ, — Сталін адказаў, што — калі-б — „нашы таварышы на Захадзе таксама як і мы, узялі-б у свае рукі ўладу ў сваіх краёх, тады нам не прышлося-б выключна сваімі слабымі фінансавымі сіламі адбудоўваць свой зруйнаваны край. Яны-б прышлі нам з дапамогаю. Але — бяз гэтага — мы ня можам зрачыся, на жаль, таго паўмільярда рублёў, што дае нашаму дахадоваму бюджэту манаполія. Што апошняе ўсьцяж існуе, атручваючы народ, вінаваты часткова ўсе нашыя Заходнія таварышы".

Як відаць, дык тут нічога ня відна, што-б гаварыла аб вялікім дабрабыце ў дзяржаве бальшавікоў. Мы дазналіся, што там у самай партыі вялікія нелады, што спаіваецца народ гарэлкаю, што тавары фабрычныя даражэйшыя як да вайны былі і г. д.

Гэтымі днямі як пішуць замежныя газэты адбыўся ўсесаюзны з'езд бальшавікоў. На гэтым зьездзе Сталін сказаў, што вайна між Саветамі і буржуазнымі дзяржавамі няўхільна, толькі трэба адцягнуць час, калі падыдзе спрыяючае палажэньне.

На тым-жа зьездзе старшыня савецкага ўраду Рыкаў адзначыў, што Троцкага выкінулі з партыі аканчальна і што пытаньне аб Троцкім вычарпана, знача — аб Троцкім ужо няма чаго гаварыць.

Цэнтральнай кропкай зьезду было пытаньне аб апазыцыі. Выступаўшыя з прамовамі прыхільнікі дасюляшняе палітыкі пагражалі апазыцыянерам выключэньнем з партыі, калі яны ня спыняць сваей разбураючай працы, а апазыцыянеры, у сваю чаргу, выказвалі памылкі ўрадовае большасьці, прычым Ракоўскі адзначыў, што Савецкі Саюз, цяпер як ніколі, знаходзіцца ў вельмі цяжкім палажэньні. Трэба зьвяртаць болей увагі на самых сябе і не спадзявацца на рэвалюцыйны рух у другіх дзяржавах.

Справа з апазыцыяй закончылася тым, што свае жаданьні апазыцыянеры будуць праводзіць унутры партыйным змаганьнем не выносячы барацьбы на вуліцу і ў народныя масы.

На закачэньне зьезд прыняў рэзалюцыі, якімі сьцьвердзіў, што ровень сялянскай гаспадаркі вельмі нізкі, што гаспадарчы апарат неналаджаны і выказаў „баявое" пажаданьне направы. Вось гэтак у Савецкай дзяржаве!..

Калі-ж гаварыць наагул аб сусьветных падзеях, дык варта ўспамянуць, і толькі ўспамянуць, сучасную сэсію Лігі Нацыяў у Жэнэве. Гэтымі днямі там неяк вырашаны польска-літоўскія спрэчкі. Гэта — як адзначаюць газэты — зьяўляецца самым галоўным пытаньнем, якія стаяць на парадку дня сэсіі Лігі Нацыяў. Але-ж як і трэба было чакаць, дык з вялікае хмары пашоў зусім малы дождж. На дамаганьне Польшчы аб устанаўленьні добрых адносінаў паміж Польшчаю і Літвою —Літва таксама выказалася, што і яе жаданьнем зьяўляецца—наладзіць нармальныя адносіны з Польшчаю. А дзеля гэтага Ліга Нацыяў запрапанавала Польшчы і Літве распачаць гутаркі аб упарадкаваньні сваіх адносінаў. Пры гэтым Польшча дала забавязаньне, што ня будзе пасягаць на незалежнасьць і цэласьць літоўскае рэспублікі. Што датычыць літоўскіх жалабаў на ўціскі і зьдзекі польскім урадам над Літоўцамі польскімі грамадзянамі, дык Ліга Нацыяў вызначыла адумысную камісію, якая зьбярэ ўсе матэр'ялы, установіць факты і на наступнай сэсіі Лігі Нацыяў, дасьць справаздачу.

Зыркі.

# НАВІНЫ.

•• Беларускі Народны Тэатр, Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры выступае з прадстаўленьнямі: — Буцлаў — 13, 14 і 15 г. сьнежаня, Даўгінава — 17 і 18 г. сьнежаня, Куранец — 20, 21 і 22 г. сьнежаня. З Куранца мае выехаць у Вялейку — павятовую.

•• Польскія газэты зьмясьцілі заметку аб тым, што пашлі ў далейшы рух справы, якія паўсталі проці паасобных паслоў і з прычыны іх нятыкальнасьці да заканчэньня пасольскага паўнамоцтва былі часова спынены. У сувязі з гэтым, судовая расправа пагражае нешта аж 60 быўшым паслом. Сярод якіх значацца і нашыя беларускія паслы. Наагул абвінавачаньня датыкаюць у значнай колькасьці паслоў нацыянальных меншасьцяў.

•• Польскія газэты пішуць, што газэта „Права Працы" № 2, па загаду камісара ўраду — канфіскавана. Рэдактар цягнецца да судовай адказнасьці.

•• Рэдактар літоўскай газэты „Келіяс", 74 летні Ю. Новік, асуджаны віленскім акружным судом за „праступкі" ў рэдагаванай ім газэце, на 300 зл. штрафу, а калі ня зможа заплаціць, дык павінен будзе адсядзець 2 месяцы арышту.

•• У Вільню прыехаў і прыймае ўдзел у прадстаўленьнях польскіх тэатраў варшаўскі артыст С. Ярач. Віленскія газэты вельмі хваляць гэтага Ярача, як артыста, але-ж гэта для нас не цікава... Цікава для нас тое, што пры гэтым дазналі мы, што, з 200 тысячаў віленскага жыхарства, 6 тысяч год-у-год выежджае да Варшавы толькі дзеля таго, каб пабыць у варшаўскіх тэатрах не здаваляючыся віленскімі. Мо' хто скажа, што гэта звычайная рэч!? Дык мы адкажам, што гэта — адзнака вар'яцтва з сытасьці.

•• Начальнік віленскага гарнізону выдаў загад па падпарадкаваным яму вайсковым адзелам аб сьвяточных водпусках (урлёпах) для салдатаў. Салдаты будуць адпускацца ў парыядзе ад 20 сьнежаня г. г., да 6 студзеня наст. г., 2 калейкамі, па 8 дзён. Кошты падарожы павінен аплачваць сам салдат.

•• Адказ на чарговыя лаянкі „Права Працы", даём у кутку сьмеху і сатыры. Пры гэтым заяўляем, што і далей будзем рабіць тое самае.

•• Згодна статыстычных дадзеных за мінулы тыдзень у Вільні прыбыло 106 безработных.

## Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт.

Цэнтральны Выбарны Камітэт у Вільні месьціцца пры

**Вострабрамскай вул. у доме № 8 кв. 1.**

Камітэт адчынены што-дзень, апрача сьвят, ад 9-й да 3-цяй гадзіны.

Па ініцыятыве Цэнтральнага Камітэту ў хуткім часе маюць быць арганізаваны **Акружныя Выбарныя Камітэты.**

# З жыцьця Польшчы.

### Да польска-літоўскіх спрэчак.

У замежныя газэты пранікла вестка; што марш. Пілсудскі паехаў у Жэнэву з нейкім сэнсацыйным (неспадзявана-дзіўным) намерам. Карэспандэнт француcкай газэты „Матэн" падае вестку, што Пілсудскі імкнецца да таго, каб аб'яднаць абедзьве дяржавы (Польшчу і Літву).

Другая газэта „Эўр" паведамляе з аўтарытэтных крыніцаў, што польскі ўрад хацеў ужо распачаць мабілізацыю, але-ж францускі пасол у Варшаве Ларош утрымаў марш. Пілсудскага ад гэтага. Францускі пасол даказаў марш. Пілсудскаму, што мабілізацыйны крок палажыў-бы на яго надта вялікую адказнасьць і меў-бы трагічныя рэзультаты для Польшчы.

### Паехалі здабываць незалежнасьць.

Польшча лічыцца незалежнаю дзяржаваю... Гэта нічога, што ў Польскім Банку гаспадарує кантроль ад амэрыканскіх банкіроў!..

Але-ж паміма гэтага гаспадара над Польшчаю ёсьць яшчэ і іншы, які гаспадаруе над табачнай манаполіяй. Права ўсіх табачных апэрацыяў, тэорытычна належыць да ўраду, але-ж фактычна табачная манаполія находзіцца пад кантрольнаю ўладаю міланскіх (Італія) банкаў. Польшча аддала табачную манаполію італьянскім банкам пад залог за пазыку грошай. Цяпер, калі таксама цераз пасярэдніцтва грашовае пазыкі Польшча папала пад кантроль амэрыканскіх банкіроў, дык яна рашыла здабыць незалежнасьць сабе ад Італіянцаў.

Польская дэлегацыя выехала ў Італію, у мэтах перагавораў аб ліквідацыі пазыкі.

### „Земянство" працуе.

8 сьнежаня ў Львове адбыўся зьезд 400 чалавек „зямянства" (абшарнікаў) Галіччыны. Зьезд пастанавіў аб'еднацца ўсім абшарнікам, каб здабыць на выбарах у Сойм і Сэнат найбольшую колькасьць мандатаў. Аратары-дакладчыкі заклікалі да супрацоўніцтва з цяперашнім польскім урадам.

Рука руку мые...

### Яшчэ адзін „гонар".

Камэндант паліцыі места Варшавы выдаў для сваіх падуладных „ганаровае" распараджэньне:

Усе паліцэйскія служачыя павінны аддаваць чэсьць вэтэранам (старым ваяком) 1863 году.

### Катастрофа на чыгунцы.

19 сьнежня а 20 гадзіне варшаўскі кур'ерскі цягнік каля Жырардава наехаў на аўтабус. Атабус паломаны ў шчэпкі, 2 чалавекі забіты, 16 ранены, а іх 13 цяжка.

### Крызіс у лодзінскай прамысловасьці.

„Экспрэс Поранны" падае весткі, што лодзінская прамысловасьць перажывае крызіс (пералом хваробы). Прычынай гэтага пералому зьяўляецца быццам тое, што лодзінскія фабрыкі нарабілі гэтак многа тавараў, што іх нельга распрадаць. Як-бы яно там ня было, характэрна тое, што найвялікшая мануфактурная ткацкая фабрыка на якой працуе 8 тысяч работнікаў дайшла да таго, што будзе працаваць толькі 3 дні на тыдзень. Другія фабрыкі таксама, магчыма што пяройдуць на такую самую сыстэму працы.

